БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

19 ліпеня 1994 г.

Аўторак

№ 78(13795)

Кошт у розніцу 100 рублёў

Выдаецца з 1921 года


**У НУМАРЫ:**



*Малюе Віктар ДУБОВІК*




# СЛУЖУ НАРОДУ!



*У вучэбным цэнтры ўнутраных войск пад Заслаўем у нядзелю прынялі прысягу навабранцы асобнай брыгады міліцыі і батальёна спецназа.*

Фота З.СТРАЛКОЎСКАГА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### У Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

***15 ліпеня 1994 года адбылося пасяджэнне Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, на якім разгледжаны вынікі другога тура галасавання.***

У спісы для галасавання было ўнесена 7476205 выбаршчыкаў. Прынялі ўдзел у галасаванні 5278331 чалавек, што складае 70,6 працэнта. 17193 бюлетэні прызнаны несапраўднымі.

Галасы выбаршчыкаў размеркаваліся наступным чынам: за Кебіча В.Ф. прагаласавала 748329 чалавек, або 14,17 працэнта, супраць — 4512809; за Лукашэнку А.Р. прагаласавала 4241026 чалавек, або 80,34 працэнта, супраць — 1020112.

На падставе артыкулаў 35 і 36 закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" Цэнтральная камісія пастанавіла лічыць выбраным прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Лукашэнку Аляксандра Рыгоравіча.

### Першыя ўказы – аб кадрах

***У часовай адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь закончылася падрыхтоўка праектаў указаў кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады па кадрах і структуры прэзідэнцкага апарату, дзейнасць якога не будзе дубліравацца службамі новага ўрада. Як заявіў Дзмітрый Булахаў, намячаецца сумарнае скарачэнне колькасці ўрадавых чыноўнікаў.***

Так, у саставе двух апаратаў — прэзідэнта і будучага Кабінета Міністраў — увогуле будзе працаваць значна менш супрацоўнікаў, чым у структуры ўрада Вячаслава Кебіча.

### Сустрэнуцца два прэзідэнты

***Як паведаміў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, паміж ім і прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным ужо ўдакладнена дата сустрэчы. Адбудзецца яна 2 жніўня ў другой палавіне дня ў Маскве.***

Паводле яго слоў, Барыс Мікалаевіч адназначна паабяцаў аказаць рэспубліцы эканамічную дапамогу, актыўна цікавіўся лёсам некаторых членаў Кабінета Міністраў рэспублікі, у тым ліку Вячаслава Кебіча. У сваёй размове прэзідэнты спыніліся і на праблемах падпісання эканамічнага дагавора.

Паводле некаторых звестак, Барыс Ельцын пасля тэлефоннай размовы з Аляксандрам Лукашэнкам аддаў распараджэнне расійскаму прэм'еру Віктару Чарнамырдзіну прыняць прадстаўнікоў Беларускага боку і "дапамагчы, чым можна".

### Цана на гарэлку патроілася

***Пратрымаўшыся нейкі час "у цуглях", зноў папаўзлі ўверх фіксаваныя цэны. На гэты раз палачкай-выручалачкай для зусім дзіравага бюджэту стала белая гарэлка. Павышэнне яе кошту з 16 ліпеня ў сярэднім у тры разы ў Дэпартаменце цэн пры Міністэрстве эканомікі рэспублікі растлумачылі як "адшуканне сродкаў для датавання малака і малочнакіслых прадуктаў".***

Але якой бы ні была фармулёўка, з суботы за паўлітра "Рускай" і "Маскоўскай" прыйдзецца плаціць 27100, "Сталічнай" і "Пшанічнай" — 27500, а "Белай Русі" — 30000 рублёў. Праўда, да гэтых лічбаў неабходна дадаваць яшчэ і кошт самой бутэлькі.

### Смяротная рыба

***Трывожную інфармацыю распаўсюдзіў 15 ліпеня Гомельскі абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. У горадзе адбылося групавое атручванне салёнай рыбай, прывезенай з Анапы. Адзін чалавек памёр, два знаходзяцца ў цяжкім стане.***

Эпідэміёлагі вобласці папярэджваюць таксама, што ў рэгіёне адзначаны выпадкі захворвання на сальманелёз. Прычыны — псаванне прадуктаў, што дрэнна захоўваюцца ў гарачыню, і парушэнне тэхналогіі прыгатавання крэмавых піражных.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Аншлага не будзе?

***Пяць месяцаў таму ў Мінску адбыўся І нацыянальны фестываль аўтарскай песні "Залатая Горка-94". Днямі лаўрэаты і дыпламанты атрымалі доўгачаканыя дыпломы.***

Вечарына праходзіла ў парку каля помніка Янку Купалу, 112-я ўгодкі якога нядаўна ўрачыста адзначалі на радзіме славутага беларускага песняра. Часткова імпрэза была прысвечана і гэтай даце.

Мяркуючы па нешматлікай аўдыторыі, што сабралася ў парку, каб паслухаць беларускія вершы і музыку, нацыянальная бардаўская песня не занадта вядомая шырокім колам сталічнай публікі. Выпадковыя прахожыя. Прысеўшыя на лаўкі замест шпацыра пенсіянеры. Дзесятак-другі запрошаных сяброў і знаёмых бардаў. Вось і ўся публіка. Для яе і спявалі вядомыя (у вузкіх колах?) айчынныя барды Віктар Шалкевіч, Алег Мізула, Лана Медзіч, Кастусь Герашчанка і іншыя. Барды былі пакрыўджаныя. Асабліва тыя, хто прыехаў з правінцыі і, не маючы магчымасці часта паказвацца публіцы, разлічваў на большую цікаўнасць да сябе і сваёй творчасці. Дыпломы, дарэчы, затрымалі па вельмі празаічнай прычыне: не было бланкаў з нацыянальнай сімволікай. Пяць месяцаў спатрэбілася, каб надрукаваць на танюсенькіх лісточках пару беларускіх слоў і выяву "Пагоні". На сапраўдныя дыпломы, скажам шчыра, гэтыя паперкі не цягнуць. Гэта не той выпадак, калі танна адначасова і сярдзіта. Такой паперцы наканавана нядоўгае жыццё, а для многіх з яе ўладальнікаў той лютаўскі фестываль быў вялікай падзеяй у творчым жыцці. Фінальны акорд фестывалю атрымаўся слабым і неарганізаваным.

**Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ.**

### Французская мова з фірменным знакам

***Клод Жаліф, пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь, і Віктар Гайсёнак, міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь, днямі падпісалі пагадненне аб сумесным выданні падручніка французскай мовы. "Трампалін" (першага ўзроўню) — такая яго назва — прызначаны для дзяцей, якія жадаюць вывучаць французскую мову. Складаецца ён з трох асобных частак ("Кніга для настаўніка", "Зборнік практыкаванняў", "Кніга для вучня") і адной аўдыёкасеты з запісам вучэбнага матэрыялу.***

Французы ўжо атрымалі дазвол на выданне падручніка ва Узбекістане, на Украіне і ў нас на Беларусі. Яны прадугледзелі аказанне дапамогі гэтым краінам у падрыхтоўцы настаўнікаў французскай мовы, якія будуць займацца ўкараненнем дадзенай методыкі выкладання французскай мовы ў сваіх школах.

Міністэрства адукацыі плануе выдаць тры часткі падручніка з разліку не менш адной "Кнігі для настаўніка" на выкладчыка, не менш аднаго "Зборніка практыкаванняў" і адной "Кнігі для вучня" на кожнага навучэнца. Забяспечыць кожнага настаўніка мінімум адной аўдыёкасетай з запісам вучэбнага матэрыялу. На падручніках і аўдыёкасетах будзе стаяць фірменны знак французскага выдавецтва — стваральніка дадзенага метаду. Беларускі бок будзе мець магчымасць выдаваць неабходную колькасць экземпляраў, бо правы на выданне канчаткова набыты.

Да беларускіх дзяцей вызначаная методыка вывучэння французскай мовы дойдзе ў 1995-96 навучальным годзе.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### Курсы валют на 18 ліпеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 26740 | 27540 | 17190 | 17600 |
| "Прыор" | 26800 | 27400 | 17630 | 17960 |
| "Пошук" | 26850 | 27600 | 17200 | 17750 |

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# Шанц для сельскай моладзі

□ **Лілія АСТРАВЕЦКАЯ**

***Саюз сельскай моладзі Беларусі — адна з маладзёжных арганізацый, якія ўзніклі пасля роспуску камсамола. Створаны ССМ па ініцыятыве студэнтаў і выпускнікоў сельскагаспадарчых ВНУ рэспублікі і афіцыйна зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі 30 снежня 1992 года.***

***Пра сённяшняе жыццё ССМ — наша размова з яго сакратаром, выкладчыкам Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута Аляксандрам САДАЎНІЧЫМ.***

**— На месцы камсамола з'явілася некалькі новых аб'яднанняў моладзі, але многія папярэднейшаму суадносяць іх з ЛКСМБ, не надта ўнікаючы ў падрабязнасці. Што ж на самай справе ўяўляе сабой ССМ?**

— Саюз сельскай моладзі Беларусі не мае дачынення да камсамола. Гэта — непалітычная арганізацыя, якая ставіць мэтай абарону сацыяльных інтарэсаў сельскай моладзі. Вядома ж, у жыцці палітычная і сацыяльная сферы цесна пераплецены. Таму мы лічым сваім правам і нават абавязкам выказваць погляды ССМ на аграрную палітыку і дабівацца ў гэтых адносінах уплыву на нашых кіраўнікоў.

Сёння ў Саюз сельскай моладзі на правах калектыўных членаў уваходзяць усе сельскагаспадарчыя ВНУ рэспублікі: Беларускі агратэхнічны універсітэт, Горацкая сельскагаспадарчая акадэмія, Віцебскі ветэрынарны універсітэт і Гродзенскі сельгасінстытут, а таксама чатыры тэхнікумы: Ваўкавыскі, Навагрудскі, Жыровіцкі і Ляхавіцкі.

**— Гэта значыць, што кожны студэнт ці навучэнец аўтаматычна становіцца членам ССМ?**

— Так. Мы вырашылі зрабіць больш простымі прыём і членства ў арганізацыі. Нават адмовіліся ад абавязковых членскіх узносаў. Хочаш быць з намі — калі ласка.

**— А ці не крыецца ў гэтай прастаце былы фармалізм і ўсё тая ж пагоня за лічбамі? Калі ў членаў Саюза няма ніякіх абавязкаў, то ў чым жа заключаецца іх членства? Інакш кажучы, ССМ — сапраўды жывая арганізацыя ці толькі статыстычны прывід?**

— Прывід нам не патрэбны. Усе мы працуем на грамадскіх пачатках, не атрымліваючы зарплаты. Вядома ж, як любая зараз некамерцыйная арганізацыя, знаходзімся ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Таму, сапраўды, не можам дайсці да кожнага, стараемся ў першую чаргу аб'яднаць лепшых, найбольш здольных і актыўных і ўжо ім дапамагчы прабіць шлях у жыцці.

**— Вельмі агульныя словы...**

— За імі стаяць справы. Напрыклад, мы распрацавалі і ажыццяўляем праграму "Малады фермер", што мае на мэце падрыхтоўку кваліфікаваных спецыялістаў для вядзення фермерскіх гаспадарак. Праблема вельмі актуальная, таму што ў нас часта бралі зямлю ў арэнду непадрыхтаваныя людзі. Каб стаць гаспадаром, аднаго жадання мала — патрэбны веды, практычны вопыт. Гэта і прадугледжвае праграма.

На першым этапе мы рыхтуем будучых фермераў у нашых ВНУ, дзе, акрамя агульных для ўсіх студэнтаў прадметаў, яны паглыблена вывучаюць сельскагаспадарчую тэхніку і замежную мову. Затым дэканаты вылучаюць лепшых для ўдзелу ў конкурсе, пераможцы якога выязджаюць на практыку за мяжу.

Напачатку мы накіроўвалі студэнтаў у некалькі краін: Германію, Фінляндыю, Данію, Аўстрыю, Нарвегію і Бельгію. У кожнай з іх ёсць чаму павучыцца. Але на сёння ў нас застаўся адзіны партнёр — Германія, і тое дзякуючы нямецкай Асацыяцыі садзейнічання развіццю сельскай гаспадаркі і экалогіі, якая ўзяла на сябе ўсе расходы па арганізацыі практыкі беларусаў.

На працягу 2—4 месяцаў чацвёртакурснікі працуюць у фермерскіх гаспадарках Германіі і вяртаюцца ўжо даволі падрыхтаванымі людзьмі.

**— Цікава, ці многія з практыкантаў сталі фермерамі?**

— Хутка даведаемся. Тыя, хто першым ездзіў, сёлета заканчваюць вучобу. Але калі і не ўсе пападуцца ў фермеры, то працаваць у сельскай гаспадарцы застанецца ўсё ж большасць. А знаёмства з заходнімі метадамі гаспадарання ім, як спецыялістам, прынесла карысць несумненную.

Вядома ж, кола інтарэсаў ССМ значна шырэйшае, чым арганізацыя замежнай практыкі, але, на жаль, на нашай роднай зямлі ўсё ўпіраецца ў фінансы.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— У нас распрацавана некалькі цікавых праграм. Адна з іх — "Здаровая ежа — здаровая нацыя" — прадугледжвае стварэнне эксперыментальнай гаспадаркі па вытворчасці экалагічна чыстай прадукцыі. Зараз яна разглядаецца Камітэтам па справах моладзі пры Савеце Міністраў. Пакуль перашкаджае праблема — адсутнасць сродкаў.

Ёсць намер стварыць цэнтр па працаўладкаванню выпускнікоў сельскагаспадарчых ВНУ і тэхнікумаў. Сітуацыя такая, што многія з іх не могуць знайсці працу ў той час, як у перыферыйных гаспадарках не хапае спецыялістаў. Цэнтр дапамог бы выпускнікам і працадаўцам знайсці адзін аднаго.

**— Напэўна, як грамадская арганізацыя вы маеце права звярнуцца са сваімі прапановамі, патрабаваннямі да ўлады?**

— Так. І знаходзім водгук. У прыватнасці Камісія па справах моладзі пры Саўміне фінансуе і праграму "Малады фермер", і некаторыя іншыя мерапрыемствы. Напрыклад, праведзеную ССМ навукова-практычную канферэнцыю "Зямельная рэформа і ўдзел у ёй моладзі".

Дарэчы, яе ўдзельнікі не толькі выказалі свой погляд на зямельную рэформу, але і накіравалі канкрэтныя прапановы ў Савет Міністраў Беларусі. Лічым, што меркаванні сельскай моладзі павінны аказваць уплыў на дзейнасць нашага ўрада.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Людміла КАХАВЕЦ, Віктар КАПАЧЭЛЬ, рэдактар Вера ПАЛЯКОВА.

### "Еўраньюс"

#### АБСТАНОЎКА НА ГАІЦІ АБСВАСТРАЕЦЦА

***У выніку жорсткіх эканамічных санкцый супраць Гаіці сітуацыя ў краіне пагаршаецца. Афіцыйныя прадстаўнікі ЗША спадзяюцца, што ў сувязі з узмацненнем ціску ваенныя лідэры Гаіці адмовяцца ад улады, але не выключаюць варыянта прымянення ваеннай сілы. Дзяржсакратар ЗША Уорэн Крыстафер заявіў: "Мы лічым, што незаконнае кіраўніцтва павінна неадкладна падаць у адстаўку. Аднак прэзідэнт яшчэ не прыняў рашэння аб прымяненні ваеннай сілы".***

У сваім выступленні па радыё зняты з пасады прэзідэнт Жан Бертран Арысцід паабяцаў, што яго вяртанне прынясе Гаіці прадукты харчавання, грошы і новую надзею — тое, што існуючы рэжым Порт-о-Прэнса ніколі не зможа зрабіць.

### "Суперчэннэл"

#### СУСТРЭЧА ДВУХ ЛІДЭРАЎ БЛІЗКАГА УСХОДУ

***Сказаўшы, што Блізкі Усход уступае ў новую эру, прэзідэнт ЗША Клінтан аб'явіў, што кароль Іарданіі Хусейн і прэм'ер-міністр Ізраіля Рабін сустрэнуцца ў Вашынгтоне 25 ліпеня.***

Гэта будзе першая адкрытая сустрэча двух лідэраў. Клінтан сказаў: "Гэта гістарычная сустрэча з'яўляецца яшчэ адным крокам да дасягнення ўсеабдымнага і трывалага міру на Блізкім Усходзе. Яна адлюстроўвае смеласць бачання, праяўленую каралём Хусейнам і прэм'ер-міністрам Рабінам у рабоце па стварэнню будучыні для сваіх народаў і для ўсяго рэгіёна".

#### МУЗЫКА І ФУТБОЛ

***Напярэдадні фінальнага матча чэмпіянату свету па футболе на стадыёне ў Лос-Анжэлесе з канцэртам "Зноў разам" выступілі тры славутыя галасы нашага часу — Пласіда Дамінга, Лучана Паварoці і Хасэ Карэрас.***

Яны спявалі разам і напярэдадні фінальнага матча чэмпіянату свету ў 1990 годзе. У канцэрце прагучалі арыі і папулярныя песні, якія зачаравалі аўдыторыю.

#### У БЕЛЫМ ДОМЕ ЗДЫМАЮЦЬ КІНО

***Акцёр Роберт Рэдфорд будзе наступным прэзідэнтам ЗША, але толькі ў кіно.***

### "Уорлднэт"

Рэдфорд здымаецца ў фільме "Амерынскі прэзідэнт" разам з уладальніцай "Осра" Эмай Томпсан, якая сыграе першую дзі.

Прадзюсеры перакананы, што ўпершыню ў торыі яны змогуць здымаць у Белым доме, ды яны раней не дапускаліся, таму што эдфорд з'яўляецца блізкім сябрам Біла інтана.

#### ГРАНІЦА ДЛЯ ГРАНАТ – НЕ ПЕРАШКОДА

***Крытычная сітуацыя склалася на граніцы паміж Руандай і Заірам. Паводле зводак ваенных колаў Францыі, мяцежнікі патрыятычнага фронта прасачыліся ў горад Гезені, дзе знаходзяцца апошнія групы ўрадавых войскаў.***

### "TV-5"

Артылерыя абстрэльвае не толькі руандзійскія вобласці: гранаты трапляюць і на тэрыторыю Заіра. У прыватнасці, быў абстраляны аэрапорт Гама, пасля чаго спыніўся прыём самалётаў на пасадку. Мяцежнікі пагражаюць, што ўварвуцца ў французскую зону бяспекі на паўднёвым захадзе Руанды.

#### У ЯПОНІІ ЁСЦЬ АРМІЯ

***Сацыялістычная партыя Японіі вуснамі свайго лідэра — цяперашняга прэм'ер-міністра Мурыямы, аб'явіла аб тым, што наяўнасць арміі ў гэтай краіне з'яўляецца канстытуцыйным фактам.***

Да гэтага часу, згодна з асноўным законам, у Японіі не было арміі.

*(Працяг на 3-й стар.).*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## Бізнес-клас

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### Прадпрымальнікі Беларусі ў Страсбургу

Днямі дэлегацыя прадстаўнікоў Саюза прадпрымальнікаў Беларусі вярнулася са Страсбурга, дзе яна прымала ўдзел у пасяджэнні Сусветнага савета малога і сярэдняга бізнесу. Гэта мерапрыемства было даволі прадстаўнічым, бо сабрала бізнесменаў больш як са 100 краін свету. З краін былога Саюза ўдзельнічалі ў пасяджэнні, акрамя Беларусі, Расія і Эстонія.

Асноўнай тэмай пасяджэння была неабходнасць прагназіравання развіцця малога і сярэдняга бізнесу ў будучым тысячагоддзі. Прадстаўнікі Італіі і Японіі прапанавалі для абмеркавання ўдзельнікам сустрэчы новыя прапановы дзяржаўных форм падтрымкі малога бізнесу.

Шырокае прадстаўніцтва сустрэчы, як і тэмы дэбатаў, абумоўлена тым, што малы і сярэдні бізнес з'яўляецца асновай эканамічна развітых краін: гэта вялікая колькасць працоўных месцаў, насычэнне рынку, ільвіная доля падаткаў. Таму і надаюць як на Захадзе, так і на Усходзе менавіта малому бізнесу вялікую ўвагу.

### Здзелка без пасрэднікаў

Цудоўную магчымасць заключыць выгадныя здзелкі без пасрэднікаў з вядомымі індыйскімі бізнесменамі атрымалі іх калегі з Беларусі. Як паведаміла пасольства Індыі ў Мінску, індыйская ўрадавая гандлёва-пасрэдніцкая арганізацыя праводзіць дзве эксклюзіўныя выстаўкі ў Маскве і Санкт-Пецярбургу. У іх плануецца ўдзел больш за 85 буйнейшых індыйскіх фірм. Будзе прадстаўлены шырокі выбар электронікі, камп'ютэрнай тэхнікі, касметыкі, каштоўнасцей, лекавых прэпаратаў, прадуктаў харчавання і шмат іншага.

Урачыстае адкрыццё выставак намечана: у Маскве — на 18 ліпеня, у Санкт-Пецярбургу — на 5 жніўня.

### Кава расце ў цане

Аматарам кавы хутка прыйдзецца раскашэльвацца, каб набыць яе. Нятанная на сённяшні дзень кава зноў падскочыць у цане.

Справа ў тым, што ў мінулую нядзелю на плантацыі кававага дрэва, што на поўдні Бразіліі, зноў, як і два тыдні таму, апусціліся халады. Згодна з падлікамі фермераў, урон на гэты раз будзе значна большы. Паводле паведамленняў афіцыйных прадстаўнікоў, сур'ёзна пашкоджаны пасадкі ў штатах Мінас, Герыяс і Парана.

Сусветна вядомыя кампаніі General Foods, Procter and Gamble u Nestle Beverage, якія валодаюць 70 працэнтамі штучнага рынку кавы ў ЗША, ужо абвясцілі аб павышэнні цэн на 17 працэнтаў. Больш таго, у самы бліжэйшы час цэны скокнуць зноў. На гэты крок адразу адрэагавалі на таргах на еўрапейскіх біржах. Хутка гэтая хваля дакоціцца і да нас.

### Тэхналогіі XXI стагоддзя

Ізраільскія прамыслоўцы, відаць, карыстаюцца ўсё большым даверам буйнейшых аўтамабільных фірм Амерыкі і Еўропы.

Так канцэрн "Джэнерал Мотарс" заказаў нядаўна ў адной з ізраільскіх фірм камплект сучаснага абсталявання для лазернай рэзкі па метале. Гэта ўжо другі заказ амерыканскіх аўтамабілебудаўнікоў, а аб'ём здзелкі складае 1,26 мільёна даляраў. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца і ізраільскія прамысловыя робаты. Сёння яны паспяхова дзейнічаюць на паточных лініях "Опеля", "Форда", "БМВ" і "Фольксвагена".

БЕЛІНФАРМ.

МЯСЦОВЫ ЧАС

# Абаранкамі не падкупіш, але верыцца ў лепшае

□ Генрых МІНІН

*У Смаргоні ўпершыню ў рэспубліцы адбылася сустрэча выпускнікоў базавых і сярэдніх школ горада і раёна, іх бацькоў з пасланцамі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў, вучылішчаў рэспублікі. Своеасаблівымі пасрэднікамі важнага для моладзі мерапрыемства сталі прадстаўнікі вучэбных устаноў, абласнога цэнтра занятасці насельніцтва, адказныя работнікі гар- і райвыканкамаў. Сустрэча атрымала ўмоўную назву кірмашу прафесій, а арганізаваў яе мясцовы цэнтр занятасці.*

У фае лепшай канцэртнай залы горада былі выстаўлены стэнды, дзе змяшчалася вычарпальная інфармацыя аб правілах прыёму ў вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы, наладжана змястоўная гутарка. Асабліва шмат пытанняў у прысутных узнікла наконт прыёму ў Мінскую духоўную семінарыю, навучальныя ўстановы, дзе рыхтуюць спецыялістаў для прамысловасці, будаўніцтва і архітэктуры, аховы здароўя і экалогіі, бытавога абслугоўвання і гандлю, транспарту і сувязі, культуры і адукацыі... Непасрэдныя кансультацыі жадаючыя атрымалі ад прадстаўнікоў навучальных устаноў.

Дырэктар Смаргонскага цэнтра занятасці В.А.Міхальчанка — вядучая сустрэчы — заклапочана адзначыла той факт, што, бадай, кожны трэці сярод беспрацоўных — юнак ці дзяўчына. Карацей кажучы, моладзь. І гэты рынак увесь час папаўняецца. Вось-вось яшчэ каля тысячы выпускнікоў школ апынуцца перад праблемай выбару. Як зменшыць жахлівую лічбу? Уласна кажучы, у гэтым ключы і ішла гутарка.

Прарэктар Беларускага інстытута правазнаўства Ч.К.Барташ прыехаў, як ён казаў, у прыватнасці, не агітаваць за сваю камерцыйную ўстанову з дыпломам дзяржаўнага ўзору і конкурс куды на сёння вышэйшы, чым у радыётэхнічны інстытут ці політэхнічную акадэмію, а проста пашукаць смелых. Датычыць гэта і ведаў, і грошай, бо навучанне на працягу года каштуе 39 мінімальных зарплат. І, наогул, 60—70 працэнтаў абітурыентаў накіроўваецца фундатарамі.

— Ідучы ў нагу з рынкам, — апавядаў прарэктар, — інстытут наладзіў сувязі з еўрапейскім супольніцтвам, пашырыў прэстыж прафесіі. А ў ліку шасці студэнтаў — дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ёсць і прадстаўнікі Смаргоншчыны.

Пра навінкі навучальнай установы апавядаў і загадчык кафедры Гродзенскага універсітэта Т.І.Тамашэвіч. Ён падкрэсліў, што з нядаўняга часу там рыхтуюць спецыялістаў па псіхалогіі, экалогіі і замежнай мове, удасканалены працэс на факультэце беларускай філалогіі і культуры, прынамсі, ёсць польскае аддзяленне. Гэта быў адказ на пытанне аб магчымасці паехаць на практыку за мяжу. Тое ж цікавіла абітурыентаў і ў дачыненні Гродзенскага сельгасінстытута. Вядучы спецыяліст па пытаннях прафарыентацыі Я.А.Місарэвіч паведаміў аб сувязях інстытута з Галандыяй, Англіяй, Германіяй. Дарэчы, у сельгаснікаў таксама нямала сучасных падыходаў да падрыхтоўкі спецыялістаў. Пашыраецца дыяпазон. Так, зоаінжынерны факультэт рыхтуе спецыялістаў і для галіны пушной зверагадоўлі, агранамічны — прынамсі для экалогіі, а на факультэце аховы раслін рыхтуюць і спецыялістаў па лекавых травах.

Добрыя даўнія сувязі ў смаргонцаў з суседзямі-маладзечанцамі. І няхай няма тут акадэмій, аднак, як падкрэсліла намеснік дырэктара ўлікова-планавага тэхнікума В.П.Глінік, сярод іх выпускнікоў няма беспрацоўных. Ды і прафесіі бухгалтара-аўдытара, рэвізора і эканаміста вельмі прэстыжныя сёння. У ролі фундатараў тут часцей выступаюць райспажыўсаюзы. Аднак можна вучыцца па дагавору і за асабістую плату. Памер яе — 10 мінімальных зарплат. У сваю чаргу, на чатырохмесячных курсах ёсць магчымасць за паўмільёна рублёў набыць прафесію бухгалтара або сакратара-машыністкі.

Няма пакуль беспрацоўных і сярод медсясцёр. Спецыялістаў у гэтай вобласці рыхтуе Маладзечанскае медвучылішча. Дарэчы, праз два гады вучобы тыя, хто вытрымае конкурс, маюць магчымасць атрымаць прафесію фельчара, масажысткі. Ёсць тут і зубатэхнічнае аддзяленне. Хто не прайшоў па конкурсу, могуць паступіць на платнае навучанне, а пасля першага семестра, як правіла, той, хто вучыцца на "4" і "5", займае месца адлічаных за непаспяховасць з "бясплатнага". Пасля адкрыцця ў Гродзенскім медінстытуце аддзялення галоўных медсясцёр з вышэйшай адукацыяй маладзечанцы накіроўваюць туды сваіх самых здольных выпускнікоў. І літаральна праз чатыры гады яны могуць ужо самі быць выкладчыкамі медвучылішча, працаўнікамі главка або міністэрства.

Выпускнікі цікавіліся, як вывучыцца на мадэльера, закройшчыка. Жадаючых чакаюць вучылішчы ў Полацку і Гродна — быў адказ. Тут таксама можна набыць прафесію фатографа, майстра па рамонту гадзіннікаў, вязальшчыцы, швачкі, цырульніка. Мадэльера ж — толькі праз шэсць гадоў працы — у Санкт-Пецярбургу ці Рызе.

"А калі не паступлю на вучобу, ці змагу ўладкавацца шафёрам?". "Не, — адказала прадстаўнік цэнтра занятасці. — У горадзе больш як сто вадзіцеляў ужо другі год без працы".

На сёння ў Смаргоні можна ўладкавацца, не застацца без справы, бадай, толькі рабочым будаўнічых прафесій, якія заняты на аб'ектах і Калінінграда, і Эстоніі, і Карэліі, і Польшчы, і Чэхіі. Без асаблівых праблем уладкоўвае цэнтр сталяроў і цесляроў, сантэхнікаў і зваршчыкаў.

А як стаць прадпрымальнікам? — было і гэткае пытанне. На яго адказала выканаўчы дырэктар рэгіянальнага фонду прадпрымальніцтва І.С.Бубнова. Дарэчы, апавядала яна, у раёне з 185 зарэгістраваных фірмаў больш-менш працуе толькі палавіна, а цвёрда стаяць на нагах менш за трэць.

І тады ўсіх, хто застаўся па-за межамі запаветных мар, запрасіў да сябе дырэктар Смаргонскага ПТВ-128 С.І.Сташкевіч, паабяцаўшы кожнаму на першым часе "надзейны кавалак хлеба, хоць і без масла". Выпускнікі сярэдніх школ маюць магчымасць набыць тут прафесіі станочніка, слесара, а з гэтага года — і будаўніка. А дзяўчаты — прафесію повара, гандляра. Але галоўны клопат дырэктара — неяк уладкаваць тых, ад каго ў свой час адмовіліся і школа, і вытворчасць. Адным словам, стварылі тут з дазволу ўлад групы навучэнцаў па двухгадовай скарочанай праграме — без атрымання атэстата аб сярэдняй адукацыі. Рыхтуюць станочнікаў шырокага профілю: токара, фрэзероўшчыка, шліфоўшчыка, а таксама слесараў. Мяркуюць так, за два гады дзеці і падрастуць, і пасталеюць, і, галоўнае, набудуць прафесію, вельмі патрэбную гораду. А там, глядзіш, і армія на парозе, і, мабыць, нешта зменіцца ў гэтым бязладным жыцці. Быць не можа, каб не змянілася.

Верыцца менавіта ў лепшае. На развітанне смаргонцы частавалі гасцей даўно ўжо забытымі смаргонскімі абаранкамі, у колішнія часы вядомымі ўсёй Еўропе. Але ж абаранкамі душу не падманеш...

УРА! КАНІКУЛЫ!



### ДУЖЭЮЦЬ У "БАРАВІЧКУ"

**Дзіцячы аздараўленчы цэнтр "Баравічок", пабудаваны з дапамогай Дзятлаўскага аграпрама, — адзін з лепшых у Гродзенскай вобласці. За лета тут адпачывае каля 700 дзяцей. Цэнтр мае выдатныя спальныя карпусы, летні домік для гульняў, спартыўную і танцавальную пляцоўкі. Тут арганізавана пяціразовае харчаванне; прычым, у рацыён уключаецца як мага больш вітамінаў — персікі, трускалкі, вішні, памідоры. Ёсць тут свой вадаём на рэчцы Малчадка, дзе ў добрае надвор'е можна купацца і загараць.**

**Працуюць з дзецьмі ў асноўным студэнты гродзенскіх ВНУ. Ёсць і пастаянны штат супрацоўнікаў, які ўзначальвае дырэктар цэнтра Пётр Іванавіч Чырко. Работа "Баравічка" не абмяжоўваецца летнімі месяцамі. Ён функцыяніруе круглы год, аздараўляючы дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.**

МАЯ МІЛІЦЫЯ МЯНЕ БЕРАЖЭ?

# "Маліна"

У купальскую ноч, а дакладней шостага ліпеня, у 22.45 дзверы кафэ "Чорны бусел", якое знаходзіцца ў Доме друку, з шумам расчыніліся, і на парозе, ваяўніча дэманструючы моц нашай слаўнай міліцыі, паўсталі два бравыя лейтэнанты. Адзін з іх назваўся ўчастковым інспектарам Савецкага РАУС.

— Хто такія? Што за п'янка? — закрычаў адзін з іх, хоць кафэ, што немалаважна, па графіку павінна было яшчэ працаваць.

Апошнія наведвальнікі кафэ збянтэжана замерлі за столікамі.

— Хто адміністратар ?! — не супакойваўся ўчастковы.

Калі ж дырэктар гандлёвага цэнтра Дома друку, старшы адміністратар і наведвальнікі паспрабавалі высвятліць, што ж усё-такі здарылася, іх ніхто не захацеў слухаць.

— Калі хто рыпнецца — будзе закаваны ў наручнікі і адпраўлены ў райаддзел,—працягвалі абражаць прысутных лейтэнанты. Яны, быццам па сцэнарыю кіно, вялі аперацыю па захопу "маліны". На просьбу адміністрацыі кафэ прад'явіць усё-такі дакументы, ніхто з бравых лейтэнантаў нават і брывом не павёў. Старшы адміністратар тут жа была абвінавачана ў распіцці спіртных напіткаў на службовым месцы, выклікана спецмашына, а наведвальнікі выстаўлены за дзверы. Пад грозныя, абразлівыя выкрыкі перапалоханая, у слязах старшы адміністратар сілком была ўвапхнута ў ліха падляцеўшы "уазік".

Кафэ засталося незачыненым і неапячатаным.

У Савецкім райаддзеле міліцыі, зноў жа пад пагрозамі, быў складзены пратакол, але сведкі, якія прыбылі ўслед, мабыць, пераблыталі планы кіраўнікоў аперацыі па захопу "маліны", і затрыманая была хутка адпушчана.

Дырэктар гандлёвага цэнтра, які рабіў праверку кафэ, таксама прыбыў сам у райаддзел і спрабаваў высветліць прычыны канфлікту. Аднак зноў жа ніхто не захацеў яго слухаць. Паказанні старшага адміністратара запісваліся ў пратакол амаль пад дыктоўку міліцыянераў; вельмі ўжо хацелася паказаць, які ў Доме друку прытон. Заплаканая жанчына без пацвярджэння медыкаў была абвінавачана ў распіцці спіртных напіткаў. Справа была зроблена.

На гэтым можна было б паставіць і кропку, маўляў, усё скончылася добра, калі б не нейкія акалічнасці.

Цікавасць з боку міліцыі да журналісцкага кафэ, якое толькі-толькі расчыніла свае дзверы ў новым Доме друку, была заўсёды. Але ў перыяд перадвыбарчай кампаніі яна ўзрасла асабліва. Не адзін раз узброеныя міліцыянеры патрульнай службы спрабавалі заходзіць у кафэ быццам бы з мэтай кантролю, але іх заўсёды ветліва выправаджвалі адміністратары, тлумачачы, што неабходнасць такая наўрад ці была, бо якраз у двух кроках ад дзвярэй кафэ знаходзіцца міліцэйскі пост аховы Дома друку. Ды і само кафэ працуе ў асноўным для журналістаў рэспубліканскіх перыядычных выданняў. Тым не менш, паводле звестак, атрыманых з нашых крыніц, стала вядома, што па міліцэйскіх зводках была перададзена інфармацыя, быццам бы ў кафэ "Чорны бусел" збіраюцца "зладзеі ў законе", "бацькі мафіі", "паханы" і г.д. Само сабой зразумела, што гэта давала магчымасць развязаць рукі тым, хто хацеў, каб прэса была пад зоркім наглядам. У любы час з любога журналіста можна было зрабіць злодзея або бандыта. У любы час, умела падтасоўваючы факты, можна было б зганьбіць не толькі кафэ, але і ўсіх тых, хто працуе ў Доме друку.

Немалаважна і іншае. Якраз напярэдадні, 5 ліпеня, адбылася прэзентацыя ў кафэ "Чорны бусел", на якой прысутнічалі галоўныя рэдактары рэспубліканскіх газет і часопісаў, дзе ў асноўным вялася гаворка, як выжыць перыёдыцы ў сённяшніх умовах, аб ўзаемадапамозе. Мабыць, дрэнна спрацавала наводка, што "маліну" прыйшлі браць толькі назаўтра, у адваротным выпадку большасць галоўных рэдактараў рэспубліканскіх выданняў прыйшлося б паставіць на ўлік у Савецкім райаддзеле міліцыі.

Справа гэта мінулага. Можна было б і не распавядаць зусім пра, здаецца, не такі ўжо значны выпадак. Але міне час — і сямтам у запале палітычных баталій /у дадзеным выпадку — напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў/ падобнае можа паўтарыцца. Недальнабачныя палітыканы чужымі рукамі спрабуюць загрэбці жар, сутыкнуць прэсу і міліцыю, адводзячы апошнім няўдзячную ролю знеслаўлення прадстаўнікоў чацвёртай улады. Мы ўжо не гаворым пра тое, што журналісты — гэта такія ж грамадзяне, як і іншыя. І іх правы таксама абараняюцца законам.

"ЧЗ-ІНФАРМ".

ЗВАНОК НА УРОК

## Ліцэісты — медыкі і паэты

*Элітарны накірунак менавіта ў інтэлектуальным сэнсе сярэдняя школа № 37 горада Віцебска набыла з першых гадоў свайго існавання. Пра гэта сведчыць і састарэлая на сённяшні дзень шыльда над уваходам з надпісам: "Школа з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы".*

Шыльду, думаецца, у хуткім часе заменяць на новую, бо ўжо год як гэтая навучальная ўстанова набыла афіцыйны статус ліцэя. Вучацца тут старшакласнікі літаральна з усіх школ горада. Але асноўную колькасць навучэнцаў складаюць свае вучні-ліцэісты, якімі ганарыцца не толькі ўласны педагагічны калектыў. І ў Першамайскім рана, і ў абласным упраўленні народнай адукацыі вам з задавальненнем паведамяць, што з 25 леташніх выпускнікоў, якія навучаліся па біёлага-хімічным напрамку, 23 паступілі ў медыцынскі інстытут. Сапраўды, ёсць чым ганарыцца.

Да нядаўняга часу ў ліцэі была адна біёлага-хімічная спецыялізацыя. А з мінулага года пачалося цеснае супрацоўніцтва з мясцовымі тэхналагічным і педагагічным інстытутамі. Раз у тыдзень школьнікі наведваюць вышэйшыя навучальныя ўстановы, дзе займаюцца па спецыяльна распрацаваных праграмах. А пасля заканчэння ліцэйскага курса адбываюцца традыцыйныя для ўсіх экзамены.

— У нас яны своеасаблівыя, — паведамляе завуч Ларыса Іванаўна Сільчанка. — Бо экзаменатары — не толькі свае педагогі, але і навукоўцы з гарадскіх ВНУ. Якраз тыя, хто займаецца з нашай моладдзю, рыхтуючы сабе будучых студэнтаў... Ёсць падставы лічыць, што і сёлета практычна ўсе нашыя ліцэісты стануць студэнтамі.

...А будучыя медыкі і філолагі тым часам сядзелі ў паўзмрочнай актавай зале, асветленай свечкамі пушкінскіх часоў, і слухалі вершы і песні пад гітару, якія напісалі самі з уласцівымі толькі ранняй маладосці развагамі, эмоцыямі і шчырасцю. Ішла прэзентацыя першага паэтычнага самвыдатаўскага альманаха.

"Сказаць мне хочацца міжвольна,
Што колькі б буры ні раўлі, —
Як снег кладзецца на палі,
Так на душы маёй спакойна", —
распавядаў Саша Дзянікін. І далей гучаў паэтычна-песенны роздум адзінаццаці аўтараў, тых, хто даверыў сваё сэрца першаму паэтычнаму альманаху і сваёй маладой настаўніцы — Таццяне Міхайлаўне Прудніковай...

Яўгенія ВІЦЬБА.

КУР'ЕР "ЧЗ"

### НАМ БЫ ПАВУЧЫЦЦА

*У горадзе Гейдэльбергу (Германія) створана Анкалагічная інфармацыйная служба.*

Галоўнае, што мае на мэце АІС, — у зразумелай форме знаёміць з прафілактыкай і іншымі аспектамі ракавых захворванняў.

На працягу тыдня супрацоўнікі службы пазменна дзяжураць ля тэлефонаў. Якая ж статыстыка званкоў? На 45 працэнтаў гэта запыты хворых на рак, 40 працэнтаў званкоў — ад іхніх родных і блізкіх. Канешне АІС не можа замяніць урачэбную дапамогу. Але вось што цікава. Як паказала даследаванне, дакладная інфармацыя дапамагае хворым на рак лягчэй спраўляцца са сваёй немаччу. У іх радзей назіраюцца дэпрэсіі, праблемы ў зносінах з навакольнымі. АІС развейвае сумненні здаровых і часам дапамагае вылячэнню хворых.

Алена АГІБАЛАВА.

### ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ПРЭФЕРАНСУ

*З 22 па 30 ліпеня ў Іерусаліме і Тэль-Авіве адбудзецца чэмпіянат свету па прэферансу. Аматары гэтай картачнай гульні ўпершыню ў гісторыі прэферанса паспрабуюць выявіць мацнейшага з мацнейшых.*

Турнір будзе праведзены па кубкавай сістэме, у два этапы: чатыры папярэднія гульні і пяць фінальных. У папярэднім этапе можа прыняць удзел любы жадаючы, але колькасць месцаў, адведзеных кожнай краіне, не павінна перавышаць 100. У фінал увойдуць 64 лепшыя ігракі, якім будзе вызначаны рэйтынг і ўручаны ганаровыя дыпломы і памятныя прызы.

Цікава, што картачныя калоды, якімі будуць гуляць удзельнікі, вырабляюцца па спецыяльнаму заказу. Кожны аматар прэферанса ўсяго толькі за некалькі тысяч даляраў зможа атрымаць калоду са сваёй уласнай выявай у аблічча караля або валета, а таксама ні на мінуту не выпускаць з поля зроку даму свайго сэрца, вядома дзякуючы картачнай даме. Дарэчы, што датычыць грошай, то любы ўдзельнік, заўважаны ў гульні на грошы, будзе тут жа дыскваліфікаваны.

### СВЕТ ТАЯМНІЧАЙ СІМВОЛІКІ

*З часоў паганства і да нашых дзён працягнута ніць расказу аб сімволіцы і сімвалах, якія сталі ўрэшце "візітнай карткай" незалежнай дзяржавы. А раскажуць пра гэта супрацоўнікі Нацыянальнага музея гісторыі і культуры, якія арганізавалі выстаўку аб вытоках нацыянальнай сімволікі нашай рэспублікі.*

Выстаўка адкрыецца 19 ліпеня па вуліцы Карла Маркса ў будынку, які мінчане і госці горада даўно прывыклі называць "Музеем з гарматай". У экспазіцыях можна будзе ўбачыць і археалагічныя і этнаграфічныя матэрыялы, сімвалы паганства, сярэдневякоўя і XX стагоддзя, калі сімволіка набыла статус нацыянальнай у выглядзе бел-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня". Наведвальнікі пазнаёмяцца, напрыклад, з цудоўнымі габеленамі на гэту тэму вядомага майстра Вольгі Дзёмкінай.

БЕЛІНФАРМ.

### ЗНАЁМЦЕСЯ: МАСТАКІ З ТАЙВАНЯ

*Наведвальнікі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі атрымалі унікальную магчымасць пазнаёміцца з новай экспазіцыяй. Упершыню музей дэманструе карціны тайваньскіх мастакоў.*

Выстава прадстаўляе гледачам вельмі вядомых на Тайвані і за яго межамі майстроў — Лі Чымао, Ван Лан Сьёнга, Шэн Чэна і Ліао Сю-пінга. Іх жывапісныя і графічныя творы даюць уяўленне і аб традыцыйным кітайскім мастацтве, і знаёмяць з сучаснымі мастацкімі накірункамі. А пабачыць свет на Беларусі выстава змагла дзякуючы намаганням еўрапейскага прадстаўніцтва Асацыяцыі культурнай спадчыны Рэспублікі Кітай.

Наталля ВАЛАКІДА.

Сто артыкулаў

# ГЕАПАЛІТЫКА I

□ Мікола КУЗНЯЦОЎ

У сівых вяках пачынаецца гісторыя Беларусі. Усё было на цярністым жыццёвым шляху беларусаў: велічныя ўзлёты духу і цяжкія выпрабаванні лёсу, памятныя бітвы і жорсткія паражэнні, гора і радасці. Мужнасцю і адданасцю, вайсковым майстэрствам і храбрасцю зацвердзіў народ сваё права жыць на зямлі продкаў. Янка Купала выразна адзначыў гэта: "Свету цэламу лжывыя вочы пратру, што ўладарка я тут, не ўмярла і не ўмру". Трэба праўду сказаць, што гераізм і мужнасць беларускага народа ў многім гартаваліся геапалітычнымі фактарамі, геанацыянальным асяроддзем жыцця беларускай нацыі, той зямлёй — барамі, балотамі, азёрамі, рэкамі, палямі і сенажацямі, тым кутком, дзе хораша душы, дзе твае карані, дзе і сцены дапамагаюць адвесці бяду-навалу, адолець ліхалецце, акрыяць, выстаяць, жыць і быць шчаслівым.

Адным словам, геапалітыка, бяспека нацыі і дзяржавы неразрыўна звязаны між сабой. Пра гэта апавядае і гісторыя. Вядомы рускі даследчык мінулага Васіль Тацішчаў, якому пашчасціла чытаць старажытныя летапісы, пазней загінуўшыя, знаходзіў у іх сведчанні таго, што геапалітычны арэал, дзе пражывалі беларусы, быў надзвычай вялікі. Беларусы жылі на тэрыторыі пад назваю Крэў ці Вярхоўе ў падзвінска-дняпроўскім рэгіёне, што з сярэдзіны XII стагоддзя называлася Белай Руссю, а горад Пскоў з'яўляўся беларускім. Пад уздзеяннем захопніцкіх нападаў суседзяў эканамічныя, палітычныя ўмовы ў рэгіёне пастаянна мяняліся. Кіеўская Русь, некалі аб'ядноўваўшая славянскія народы, распалася. Полацкае, Турава-Пінскае і іншыя княствы з'явіліся збіральнікамі, цэнтрамі беларускай народнасці. Шэраг геапалітычных пераваг мела Полацкая зямля, што месцілася на захадзе Кіеўскай Русі. Цераз яе пралягаў па Заходняй Дзвіне самы кароткі шлях у Заходнюю Еўропу, з Балтыйскага ці Паўночнага мораў у Чорнае і Міжземнае моры, што садзейнічала хуткаму эканамічнаму развіццю раннефеадальнага княства і ўмацаванню яго вайсковай магутнасці.

Усё больш пачало заяўляць пра сябе Мінскае княства, якое займала выгаднае геапалітычнае становішча ў Нёманскім і Дняпроўскім рэгіёнах.

Самастойнымі ўдзельнымі княствамі сталі Віцебскае, Друцкае і іншыя ўладанні. Кіеўскія князі, імкнучыся вярнуць развітыя ў эканамічных і стратэгічных адносінах княствы, што апошнім часам усё часцей урываліся ў іх уладанні, здзейснілі шэраг карных паходаў у Полацкую зямлю.

На нейкі час непакорныя княствы зноў далучаліся да рускіх зямель, зноў аддзяляліся, агнём і мечом плацілі за крыўду і кроў. Паступова пачынаюцца і аб'яднальныя працэсы. Самастойныя княствы заяўляюць аб сабе.

Беларускае Панямонне напярэдадні бедстваў, што выпалі на долю Кіеўскай Русі, Польшчы і Прыбалтыкі ў час мангольскіх заваёў і крыжовых паходаў, з'явілася тым геапалітычным асяродкам, дзе ўзнікла Вялікае княства Літоўскае (ВКЛ). На мой погляд, гэтае ўтварэнне было б правільней сёння называць Вялікім Беларуска-Літоўскім княствам (ВБЛК). Аб правамернасці гэтай назвы і справядлівасці яго зацвярджэння ў гістарыяграфіі гаворыць і ацэнка Ф.Энгельса, які адзначаў, што "ва ўладанні саміх літоўцаў знаходзіліся толькі паўночныя землі Прыбалтыкі".

Навагрудак, як аб'яднаўчы цэнтр удзельных княстваў, паступова страціў сваё значэнне. У цэнтр палітычнай дзяржавы вылучылася Вільня. Геапалітычная мэтазгоднасць пераносу сталіцы з Навагрудка ў Вільню была апраўдана і з палітычнага, і са стратэгічнага пунктаў гледжання. Горад на Віліі меў водны шлях у Полацк, знаходзіўся ў самым сэрцы беларускіх зямель. Аднак, геапалітычнае выгаднае становішча даводзілася падмацоўваць саюзамі. Пэўныя з іх бяспека была настолькі рэальнай, што выбару амаль што не засталася. Уваходжанне, такім чынам, ВБЛК у склад Рэчы Паспалітай пэўным чынам паслабляла моц княства, аднак не аслабляла захопніцкіх апетытаў ворагаў, у тым ліку крыжакоў. У барацьбе з захопнікамі расло майстэрства воінаў, гартаваліся якасці палкаводцаў. Да 1410 г. склалася магутная ваенна-палітычная кааліцыя рускіх, польскіх, украінскіх, чэшскіх і некаторых іншых зямель для рашаючага адпору варожым імкненням тэўтонцаў. 15 ліпеня 1410 г. ля вёскі Грунвальд Ольштынскага ваяводства, што ў сённяшняй Польшчы, крыжакі былі ўшчэнт разбіты.

Пачалася працяглая паласа саперніцтва двух магутных славянскіх утварэнняў. Гэта барацьба ўскладнялася выкарыстаннем абодвума бакамі такога аднолькава небяспечнага для Масквы і ВБЛК ворага, як Крымскае ханства. У бітвах супраць войск Маскоўскай дзяржавы, што імкнулася далучыць да сябе некалі захопленыя ў міжусобіцах землі, супраць ордаў крымскіх татар праявіліся выдатныя вайсковыя якасці гетмана Канстанціна Астрожскага, князя Юрыя Алелькавіча, ваявод Станіслава Кішкі, Альбрэхта Гаштольда і многіх іншых палкаводцаў. Выстаяць у нялёгкай барацьбе дапамагаў дзяржаўны розум вялікіх князёў Аляксандра, Вітаўта, Сігізмунда, Жыгімонта. Безумоўна, беспаспяховае саперніцтва, братазабойчыя войны паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай абяскроўлівалі народы. Гэта разумеў дальнабачны і светлы розум — канцлер Леў Сапега, выношваючы план стварэння адзінай дзяржавы на падставе зліцця Расіі і Польшчы, імкнучыся інтэграваць Усходнюю і Цэнтральную Еўропу.

Пасля смерці бяздзетных каралёў Рэчы Паспалітай, вялікага князя ВБЛК Жыгімонта Аўгуста II, Стэфана Баторыя, Расійскага цара Івана IV Леў Сапега, выконваючы свой геапалітычны план, прапанаваў абвясціць Каралём Рэчы Паспалітай, вялікім князем Літоўскім і Расійскім царом сына Івана Грознага Фёдара. Расійскі двор, цвяроза ацэньваючы сваю тупіковую палітыку ў адносінах да заходняга суседа, ухапіўся за слушную прапанову: "Только выберите себе в государи нашего царя, будете под его царскою рукою, а всем управляйте сами в Короне Польской и Великом Княжестве по своим правам".

Здавалася, дэталёва прадуманы Сапегам геапалітычны план не здзейсніўся...

Зрэшты, ён і не ажыццявіўся б, а калі б і адбыўся, то ненадоўга: гістарычныя лёсы, культурныя ўклады, рэлігійныя вераванні двух славянскіх народаў вызначыліся ў многім па-рознаму. Жыць разам ім проста не было

